# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 35 (705) 31 ЖНІЎНЯ 1969 г. ЦАНА 60 гр.


НАПЯРЭДАДНІ НАВУЧАЛЬНАГА ГОДА

## БЕЛАСТОЦКАЕ ШКОЛЬНІЦТВА

1 верасня распачнуць новы навучальны год 7 мільёнаў дзяцей і моладзі ў 37 тыс. рознага тыпу школ.

На працягу гісторыі не было ў Польшчы такога перыяду, які б у скромным чвэрцьстагоддзі замыкаў такія велізарныя дасягненні ў галіне асветы. 25-годдзе ПНР прынесла сапраўдную асветную рэвалюцыю, зрэалізавала лозунг «Польшча — краіна адукаваных людзей».

Як гэтыя справы маюцца на Беласточчыне, гаворыць віцэ-куратар **мгр Ст. Роман** у інтэрв'ю для «Нівы».

**— У гэтым годзе адзначаем урачыста 25-годдзе ПНР, падагульняем дасягненні. Як Вы ацэньваеце пройдзены шлях беластоцкага школьніцтва ў мінуўшым 25-годдзі?**

— Для ацэнак найлепшымі будуць параўнанні. Статыстычныя дадзеныя гавораць нам, што ў 1937/38 годзе толькі 90% дзяцей ва ўзросце 7—13 гадоў вучылася ў пачатковых школах і каля 13% моладзі ва ўзросце 14—17 год было ахоплена навучаннем у сярэдніх і прафесіянальных школах. Прыблізна кожнае дзесятае дзіця ва ўзросце 7—13 год было па-за школай. Асабліва цярпела вёска. На 1213 пачатковых школ, існуючых на беластоцкай вёсцы, толькі 54 было з найважнейшым VII класам, г. зн. каля 4% ліку вясковых школ. Бясплатнай навука была толькі ў пачатковых школах.

У народнай Польшчы рэалізуецца прынцып бясплатнага навучання ва ўсіх ступенях адукацыі. За мінулы перыяд пабудавана 572 сучасныя школьныя будынкі. У апошніх гадах паказчык рэалізацыі ўсеагульнасці навучання складае каля 99,8%. Школьных памяшканняў у 1946/47 г. было 2285, а ў 1968/69 іх лік пабольшыўся да 6741. У пасляваенны перыяд ў кожным павеце створаны прынамсі адзін агульнаадукацыйны ліцэй. І так, калі ў 1946/47 годзе было 26 ліцэяў, дык у 1968/69 іх колькасць склала 32. Пасля 1958/59 наступіла значнае развіццё сельскагаспадарчых школ. У 1968 годзе ў Беластоцкім ваяводстве існавала 20 сельскагаспадарчых тэхнікумаў, 106 СПР і 6 ЗСР, дзе вучылася агулам 6564 вучні.

**— Чым будуць характарызавацца намаганні асветных улад і настаўнікаў у 1969/70 навучальным годзе?**

— Перш за ўсё будзем рэалізаваць заданні, пастаўленыя яшчэ ў папярэдніх гадах: ствараць сістэму школ з як найбольшай колькасцю настаўнікаў, дзе можна даваць працу настаўнікам розных спецыяльнасцей. Імкнемся да таго, каб як найбольшая колькасць дзяцей хадзіла ў васьмікласныя школы, бо яны лепш падрыхтоўваюць вучняў. У мінулым годзе 95 працэнтаў дзяцей і моладзі хадзіла ў 8-класныя школы, а толькі 5% вучылася ў школах з класамі I—IV...

**— А што новага ў сярэднім і прафесіянальным школьніцтве?**

— Перш за ўсё робім намаганні, каб як мага больш моладзі магло вучыцца далей. У мінулым годзе запэўнілі мы месца для 68% абсальвентаў пачатковых школ. Найбольшай балячкай з'яўляецца ў нас набор у СПР-ы. Маем 3000 месц, а набор складае толькі 1400 кандыдатаў.

Пэўнага роду навінкай будзе ўвядзенне (на аснове пастаноў рад нарадовых) абавязку навучання ў школах або на курсах моладзі, якая закончыла 8 класаў у гарадах: Беластоку, Элку, Сувалках і Ломжы.

Працяг на стар. 4



На Гайнаўшчыне. Фота Цаф-Сянько




Сёння вялікае свята беластоцкай вёскі — ваяводскія дажынкі ў Беластоку. Сталіца ваяводства прымае тых, ад каго атрымліваем хлеб, мяса, малако, ад каго залежыць не толькі нашае штодзённае жыццё, але ўзровень сацыялістычнай гаспадаркі Польшчы. Гэта ўжо 25-тыя дажынкі, якія святкуе наша вёска без памешчыкаў.

Стараста прыпаднясе ў гэтым годзе дажынкавы традыцыйны вянок гаспадару дажынак больш багаты, бо ахапляючы дасягненні 25-ці год сельскай гаспадаркі на Беласточчыне, вянок падзякі партыі і народнай уладзе за дапамогу, аказваемую сельскай гаспадарцы. Прыглядаючыся гэтаму вянку, успамінаем пройдзенае нашай сельскай гаспадаркі, яе дасягненні.

Пасля вызвалення нашай краіны перад сельскай гаспадаркай была пастаўлена задача: ліквідаваць велізарныя ваенныя знішчэнні, загаспадараваць паўночныя паветы, а таксама паступова ліквідаваць прымітыўныя формы гаспадаравання. Страты, якія панесла сельская гаспадарка Беласточчыны, былі беспрэцэдэнтнымі ў гісторыі ваяводства. Страціла яна каля 120 тысяч жылых і гаспадарчых будынкаў, вартасць якіх — 6 мільярдаў зл. па цэнах з 1938 г., 76% перадваеннага стану пагалоўя свіней, 75% перадваеннага стану кароў, 65% авечак, 51% коней. Апрача таго, на вызваленай тэрыторыі ў 1945 г. было незасеяна каля 300 тыс. гектараў зямлі, з чаго больш 150 тыс. гектараў аблогаў.

Сельскагаспадарчая рэформа, праведзеная ў 1944—1949 г.г. ахапіла (на даўніх землях Беластоцкага ваяводства) 447 фальваркаў, з зямлі якіх было створана або павялічана 27.831 сялянскіх гаспадарак. Іншай формай дапамогі дзяржавы быў банкавы крэдыт на адбудову гаспадарак (якіх у 1944—49 гадах адбудавана каля 70 працэнтаў), пастаўкі збожжа, трактараў і інш.

Дзякуючы аграмадным намаганням народнай улады значна павялічылася колькасць пасеваў збожжа і прамысловых раслін, якія з'яўляюцца больш рэнтабельнымі і патрэбнымі для развіцця спажывецкай прамысловасці. Калі, напрыклад, у 1946 г. было засеяна пшаніцы 15,4 тыс. га, дык у 1968 годзе засеяна 44,8 тыс. га. Цукровых буракоў у 1946 г. статыстыкі зусім не паказвалі, а ў 1968 годзе было засеяна 12,1 тыс. га.

У параўнанні з перадваенным перыядам была перабудавана тэхнічная база сельскай гаспадаркі. У 1968 годзе было электрыфікавана 73% індывідуальных гаспадарак на вёсцы. Гледзячы на электрычныя лямпачкі ў нашых вёсках, ужо не заўсёды памятаем, што перад вайной на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства было электрыфікавана толькі 18 вёсак, а ў 1968 г. лік іх склаў 2846.

Эфектам агульнага прагрэсу ў сельскай гаспадарцы Беласточчыны пасляваеннага перыяду з'яўляецца паслядоўны ўзрост плёнаў. І зноў звернемся да прыкладаў. У граніцах сённяшняга ваяводства ўраджайнасць пшаніцы ў 1938 г. складала 9,2 цэнтнера з гектара, у 1946 г. — 7 цэнтнераў, каб у 1968 годзе павялічыцца да 19,8 цэнтнераў з гектара. Характэрным для беластоцкай сельскай гаспадаркі з'яўляецца і той

Працяг на стар. 4




**1 верасня гэтага года спаўняецца 30-я гадавіна пачатку II сусветнай вайны — найбольш страшнай, знішчальнай у гісторыі чалавецтва вайны, якая працягвалася ад верасня 1939 г. звыш 5,5 год і закончылася капітуляцыяй Германіі ў маі 1945 года.**

**Арэнай пачатку яе дзеяння была тэрыторыя нашай краіны — тагачасная слабая не падрыхтаваная да вайны Польшча. Дасканала ўзброеная гітлераўская армія, ахопленая маніяй вышэйшасці сваёй расы, неабходнасці падпарадкавання сабе ўсяго свету і ўвядзення новых фашысцкіх парадкаў хутка падпарадкавала многія невялікія краіны Еўропы, Польшчу і развязала вайну з Савецкім Саюзам. Вайна гэта прынесла чалавецтву страшныя знішчэнні гарадоў, вёсак, помнікаў культуры, мільёны забітых. Толькі надлюдская ахвярнасць і гераізм міралюбівых народаў, асабліва народаў СССР, паклалі канец фашысцкаму тэрору і планам біялагічнага вынішчэння цэлых народаў.**

**Факты гэтыя шырока вядомы. Для старэйшых яны перасоўваюцца перад вачыма як сумныя ўспаміны знішчэнняў, крыві і гора, для моладзі — гэта ўжо гісторыя. Як прайшла II сусветная вайна на Беласточчыне, мы ведаем мала. Таму некалькі вестак няхай паслужыць не толькі лекцыяй гісторыі, але ўзбудзіць сярод нашай шматлікай інтэлігенцыі зацікаўленне праблематыкай гэтага перыяду, патрэбу яе даследвання.**

**Захапіўшы Беласточчыну ў ліпені 1941 г., Гітлер перадаў новаўтвораную «Акругу Беласток» надпрэзідэнту Усходняй Прусіі Э. Коху, з імем якога звязаны ўсе мясцовыя падзеі. Акруга гэтая ахоплівала 31,5 тыс. км.² тэрыторыі — ад Ломжы па Ваўкавыск і ад Сямяціч па Аўгустова, на якой пражывала каля 1,4 млн. жыхароў. Паводле генеральных планаў, мела яна ўвайсці пасля частковага вынішчэння гэтага насельніцтва ў межы Усходняй Прусіі як інтэгральная частка.**

**Немцы не прыдавалі развіццю эканомікі і культуры ніякага значэння. Усе**



**іх клопаты зводзіліся да тэрміновага сцягвання вялікіх ваенных кантынгентаў збожжа, мяса і іншых прадуктаў харчавання ці сельскагаспадарчай сыравіны на патрэбы фронту. Насельніцтва мела захоўваць поўную паслухмянасць, лаяльнасць у адносінах да немцаў. Непадпарадкаванне загадам сурова каралася. За ўвесь перыяд вайны згінула на Беласточчыне (у яе сучасных граніцах, без паветаў ЭГО) каля 350 тыс. насельніцтва.**

**На тэрыторыі цікавячых нас паўднёва-ўсходніх паветаў страты былі таксама велізарныя. Многанацыянальны склад мясцовага насельніцтва гітлераўцы хацелі парозніць, узаемна супрацьпаставіць.**

**Урэшце, за сувязі з партызанамі прымянялі найдзікшыя формы тэрору. Найбольш па-варварску яны расправіліся з насельніцтвам вёскі Райск, Бельскага павета, Полька і Папоўка, Беластоцкага павета, у якіх расстралялі ўсіх**

Працяг на стар. 4

 

# Над магілай загінуўшых

Першага верасня мінае 30 год ад пачатку II сусветнай вайны. Ад першага верасня 1939 года аж да мая 1945 года гітлераўцы на захопленых землях здзекваліся над людзьмі, расстрэльвалі патрыётаў. Памятаем усё гэта. Памятаем, як фашысты з тупой метадычнасцю, са злосцю ашалелых дзікуноў сеялі смерць і разбурэнне. Наша зямля, зямля ўсёй Польшчы і зямля Савецкага Саюза услана магіламі загінуўшых патрыётаў. Усе месцы здзекаў і расстрэлаў, усе магілы ўшаноўваюцца нашымі народамі. Ёсць адна магіла ў Белавежскай пушчы, на зямлі Савецкай Беларусі. Яна знаходзіцца ў адлегласці некалькіх кіламетраў ад граніцы, у Пружанскім раёне. Там расстраляны жыхары Белавежы, жыхары сённяшняга Гайнаўскага павета і Пружанскага раёна.

10 жніўня грамадскасць Гайнаўшчыны і грамадскасць Пружаншчыны сабралася над гэтай магілай, у якой ляжыць каля 200 чалавек. Жывыя прыйшлі пакланіцца мёртвым. Прыйшлі на ўрачыстасць памяці, на жалобны мітынг. Прыйшлі з вянкамі і кветкамі, з болем у сэрцы.



**Выступае з прамоваю першы сакратар павятовага камітэта ПАРП у Гайнаўцы Аляксей Лазоўскі. Побач з ім стаіць першы сакратар раённага камітэта КПГ у Пружанах М. Г. Кудрэйка.**



**Вянок на магілу загінуўшых злажыла польская дэлегацыя: А. Лазоўскі, Д. Харужы і Панасюк.**



**Урачысты марш салдат перад магілай.**

Тут, у вялікай жвіровай яме стаіць помнік тым людзям, якія вельмі хацелі жыць, выхоўваць дзяцей, але ў маладыя гады жыццё ў іх забралі ворагі.

Каля 2000 чалавек прыбыло сюды на чале з палітычнымі і адміністрацыйнымі кіраўнікамі Гайнаўскага павета і Пружанскага раёна. Сустрэліся яны як браты, як сёстры, як родныя. Сустрэліся на польска-савецкай граніцы і адтуль з кветкамі ў руках спецыяльна падрыхтаванымі самаходамі паехалі на мітынг польска-савецкай дружбы каля брацкай магілы. Урачысты жалобны мітынг адкрыў старшыня Пружанскага райспалкома І. Р. Качур. Аркестр выконваў тры гімны: СССР, ПНР і БССР. Ганаровае права запаліць ля помніка агонь Славы было прадстаўлена савецкаму афіцэру В. І. Сматову і намесніку павятовага каменданта міліцыі ў Гайнаўцы Дзмітру Харужаму. Пасля выступілі з прамовамі кіраўнікі дэлегацый — першы сакратар райкома партыі ў Пружанах тав. М. Г. Кудрэйка і першы сакратар павятовага камітэта ПАРП у Гайнаўцы А. Лазоўскі. Выступаў таксама ветэран вайны старшыня калгаса «Чырвоны Партызан» М. Р. Кашкан.

У другой сусветнай вайне загінула 20 мільёнаў савецкіх грамадзян і 6 мільёнаў палякаў. Савецкі Саюз і Польшча панеслі найбольшыя страты. Дружба, замацаваная крывёй, дружба нашых народаў — польскага і савецкага, непарушная. За гэтую дружбу, за будаўніцтва сацыялізма ў Польшчы і камунізма ў СССР аддалі жыццё мільёны людзей. Вось, прыкладна, такі быў змест выступленняў вышэй успомненых таварышаў.

Да слёз кранула ўсіх выступленне піянераў Шэрашаўскай сярэдняй школы Надзі Бартош, Раі Гушчы, Лёні Сіманенкі, Валіка Найбіча, Раі Ціхан і Марысі Нояк. Яны так дэкламавалі над магілай загінуўшых патрыётаў:

«І птушкі пяюць — без вас, і воблакі плывуць — без вас, і чарэшні цвітуць — без вас».

« Ад імя сэрца, ад імя жыцця мы паўтараем: вечная слава героям, аддаўшым сваё жыццё за нашу свабоду! Людзі зямлі, забійце вайну!»



**Над магілай загінуўшых многія выціралі слёзы.**



**Вянкі і кветкі складалі не толькі арганізацыі і ўстановы, але і сваякі і знаёмыя.**

Словы піянераў выклікалі ў многіх слёзы. Пасля пад рокат барабанаў і пад гук салютаў ускладаліся вянкі каля помніка, дзе стаяла ганаровая варта салдат і піянераў. Было ўзложана больш 50 вянкоў — прадстаўнікамі партыйных і адміністрацыйных улад Пружаншчыны і Гайнаўшчыны, многімі арганізацыямі і ўстановамі, калгасамі і сем'ямі загінуўшых.

* * *

Гэтая брацкая сустрэча жыхароў з суседніх пагранічных раёнаў была адначасова аказіяй спаткання сваякоў і знаёмых. Хвалюючыя хвіліны былі, калі пасля доўгіх год спатыкаліся сваякі. Слёзы радасці можна было ўбачыць у час пацісканія рук і пацалункаў. У лесе пад многімі, многімі дрэвамі адбываліся сямейныя ўрачыстасці, на якіх успаміналася мінулае, гаварылася аб сённяшнім і заглядвалася ў будучыню.

**Міхась Хмялеўскі**

**Урачысты салют.**

**ФОТА ЦАФ — СЯНЬКО**

## Чытаючы Сакрата...

Першы зборнік твораў Сакрата Яновіча выклікаў шырокі водгук не толькі ў «Ніве», але і ў польскім друку. Словам, кніжка карыстаецца вялікім зацікаўленнем. І яна варта таго, каб ёю зацікавіцца, каб яе прачытаць.

Проза Яновіча захапляе. Яна прыцягвае своеасаблівай чароўнай свежасцю, дарослым стылем. У чым заключаецца таямніца твораў Яновіча? На маю думку, тут можна вызначыць тры галоўныя асаблівасці яго творчасці.

Па-першае, тое, што аўтар піша, глыбока ім прадумана. Ён піша не на заказ, ён піша з унутранай патрэбы, з парыву сэрца. Па-другое, у кожным творы праяўляецца глыбокае адчуванне характва, захапленне жыццём. І па-трэцяе, мова Яновіча вызначаецца вялікай сілы паэтычнасцю і прывабнай, жывой беларушчынай.

Героі твораў Яновіча — гэта звычайныя людзі. І справы, пра якія аўтар расказвае, таксама простыя. Але ўсё сказана так упэўнена і пераканаўча, што прымушае чытача задумацца.

Аўтар — уважлівы назіральнік, ён бачыць жыццё з усіх бакоў. Таму ў многіх яго творах аж кіпіць ад горкай іроніі і вострай сатыры. Жамчужынкамі тут з'яўляюцца апавяданні «Удача» і «Як я стаў лысым». Або тое апавяданне «Як Крынкі Саколку абулі», колькі ў ім досціпу, ну хоць бы тыя мянушкі шаўцоў: Франак — Глянцпаперчык, Абцасік, Сцяпан — Пекная Халяўка.

Крыху большае апавяданне «Экскурсія» напісана з бесклапотнай павагай. Сваім настроем яно нагадвае мне творы Хемінгуэя.




Асаблівай увагі заслугоўвае прыгодніцкая аповесць «Скарбы ў Яцвяжскай пушчы». На фоне прыгод дваіх дзяцей у час канікул тут выступаюць гістарычна-патрыятычныя элементы. Добра было б выдаць яе для моладзі асобнай кніжкай.

У аповесці «Таня» аўтар расказвае пра першае каханне Юркі, пра нешчаслівае каханне. Вобраз хлопца нарысаваны моцна, яго перажыванні паказаны так інтэнсіўна, што міжвольна думаецца, ці гэта не аўтабіяграфічныя матывы. Асоба Тані выйшла даволі бледна. Яе адносіны да Юркі не абгрунтаваны, яна крыўдзіць яго неяк беспадстаўна.

Канцавая аповесць «Ён і іншыя» паказвае далейшае жыццё таго ж Юркі, ужо жанатага чалавека. Ён займае адказную пасаду, яго запрашаюць на нарады ў Варшаву. Аднак не відаць, каб ён быў шчаслівы. На мой густ, тут замнога нейкага непакою, суму, замнога душэўных горкіх перажыванняў. Трэба больш радасці.

І на астатак некалькі заўваг адносна мовы з боку яе згоднасці з літаратурнай мовай. У кніжцы даволі часта выступае слова «пакладавіліся» ў сэнсе «ляглі», напрыклад, «пакладавіліся спаць». Вядома, што людзі імкнуцца ствараць словы ў меру магчымасці кароткія, таму і з'явіліся такія словы, як «нат, мо» замест «нават, можа». Хіба не варта карыстацца шасціскладовым словам замест двухскладовага. Папросту — эканомія.

Часам здараюцца словы няправільна акцэнтаваныя, як багно (стар. 31), годы (223, і 279). Некаторыя словы выступаюць у розных формах, напр., свэтар і світэр ((91, і 164). Аўтар ужывае «ёлачкі» замест «елачкі» і «вырабляць» замест «дурэць». Сустракаецца даволі многа дыялектных форм, як «будзе мог», ці «будуць хацець» «расавацъ» хоць павінна быць «красавацъ» (гутарка аб красаванні жыта). Па-мойму рэдактар кніжкі не павінен быў шкадаваць свайго алоўка.

У вельмі ўдала напісаным пасляслоўі аўтар называе свой першы твор «Фэст». Шкада, што яго няма ў зборніку.

Але гэта, так сказаць, дробязі, якія нічуць не шкодзяць. Такіх кніг, як «Загоны» Яновіча, трэба нам як найбольш.

**Баляслаў Манкевіч**

* * *

**Сакрат Яновіч: «Загоны». Выданне Галоўнага праўлення БГКТ, Беласток, 1969. Стар. 288. Цана 10 зл.**



 

Пачатак на стар. 1



## НІКОЛІ БОЛЬШ ВАЙНЫ

**мужчын, спалілі пабудовы, а тэрыторыю пад сялібамі вёсак зааралі.**

**У 1941 і 1942 гадах, прадугледжваючы пашырэнне партызанскага руху ў Белавежскай пушчы, яны толькі на заходняй яе ўскраіне разбурылі 37 вёсак, а іх насельніцтва перасялілі ў Беласток, Бельск, Гайнаўку і іншыя мясцовасці.**

**Як жа мала вядомы гэтыя факты варварства! Агульныя страты насельніцтва за гады II сусветнай вайны ў былых Беластоцкім, Бельскім і Сакольскім паветах склалі (без яўрэйскага насельніцтва) каля 70 тыс. чалавек, гэта значыць каля 15% ліку іх насельніцтва і 25% страт усяго Беластоцкага ваяводства.**

**Цяжкія страты панесла таксама яўрэйскае насельніцтва. Акрэсліваецца, што ва ўсіх малых гетах, а пасля — у беластоцкім гета і пры іншых абставінах (лагерах, лапанках і г.д.) загінула з тэрыторыі 6 паўднёва-ўсходніх паветаў каля 80 тыс. яўрэяў.**

**З гэтага вынікае, што з рук акупантаў загінула каля 150 тыс. насельніцтва.**

**Ад ваенных дзеянняў пацярпелі гарады, прамысловасць, транспарт, сельская гаспадарка. Поўную руіну прадстаўляў Заблудаў, які быў знішчаны ў 82%, Драгічын — у 62%, Беласток — у 61%, Сямяцічы — у 51%. Знішчаны былі таксама Бельск, Саколка, Гайнаўка, Супрасль і іншыя гарады. Пацягнула гэта змяншэнне колькасці гарадскога насельніцтва са 164,5 тыс. да 87,6 тыс. жыхароў.**

**Зруйнавана была прамысловасць. Перад адступленнем акупантаў спецыяльныя атрады (брандкамандо) знішчалі ўсе заводы, іх абсталяванне і нават дапаможныя будынкі. Страшныя знішчэнні нанеслі акупанты сельскай гаспадарцы. У Бельскім павеце знішчана зусім або часткова 157 вёсак з агульным лікам 4113 гаспадарак, у Беластоцкім — 210 вёсак і 5036 гаспадарак, у Сакольскім — 176 вёсак і 4079 гаспадарак.**

**Такія велізарныя страты патрабавалі вялікага ўкладу працы насельніцтва, ахвярнасці і клопатаў, каб іх залячыць.**

**Замест дасканаліць вытворчасць, упрыгожваць гарады і вёскі насельніцтва нашага ваяводства, як і ўсёй краіны, павінна было адбудоўваць ваенныя знішчэнні. Але найбольш і найдаўжэй адчувальны аднак страты насельніцтва: бацькоў, членаў сем'яў, блізкіх, знаёмых.**

**Гэта страшны баланс. І таму, калі чуем, што на захадзе зноў адраджаецца германскі мілітарызм і неафашызм, гаворым: ніколі больш вайны!**

**У. Юзвюк**

---

# ГАСПАДАР І ДЗЕЯЧ

Па ўсёй краіне ідзе зараз заўзятае змаганне за творчае прымяненне пастаноў II пленума Цэнтральнага Камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Рабочыя калектывы намагаюцца прадукаваць танней, дакладней і больш, шукаюць яны ў сваіх прадпрыемствах новых арганізацыйных і тэхнічных развязак, выяўляюць прадукцыйныя рэзервы, якіх дагэтуль не заўважалі.

А сяляне?

У сельскай гаспадарцы таксама ідзе барацьба за лепшую, болей выдайную прадукцыю. Тут перш за ўсё справа зводзіцца да таго, каб максімальна і найбольш рацыянальна выкарыстаць тое агульнанароднае багацце, якім з'яўляецца зямля. Значыць, згодна з указаннямі сучаснай навукі, трэба прымяняць штучныя ўгнаенні, уводзіць на палі новыя сельскагаспадарчыя культуры, выпрактыкоўваць самы лепшы пладазмен.

Гэта пажаданні і агульныя ўказанні. А што сапраўды дзеецца ў вёсках?

Шукаючы адказу на гэтае пытанне, завандраваў я на Сакольшчыну. У Гуранскай грамадзе мясцовыя сельскагаспадарчыя дзеячы мне падказалі:

— Вы пазнаёмцеся з Рыгорам Турычам. Гэта добры гаспадар і актыўны грамадскі дзеяч.

Сакольшчына ўвогуле, а Гуранская грамада ў асаблівасці добрымі землямі не багата. Пясок і гліна. Ці сярод гэтых узгоркаў, дзе толькі яловец і карлікавыя сасонкі, можна думаць пра сучасныя метады гаспадаравання?

Рыгор Турыч кажа, што можна, асабліва цяпер, калі нам урэшце правялі камасацыю гэтых чартоўскіх палосак.

— Дык як? Як вы гаспадарыце? — дапытваюся.

— Мне здаецца, што звычайна.

А мне ў той момант прыпомніліся словы аднаго гаспадара, якога я распытваў пра Турыча.

«О, Турыч! — усклікнуў ён. — Гэта чалавек, што чорта прадасць, усюды дадзе, усё аформіць!»

— Маю я не цэлых дзевяць гектараў зямлі, — прадаўжаў Рыгор Турыч. — Зямля, як і ва ўсіх тут, дрэнная. Толькі пяты і шосты класы. Лепшай няма. Без добрага ўгнойвання нічога не атрымаецца. Дык я не шкадую грошай на штучныя ўгнаенні. У гэтым вось годзе аддаў на іх амаль 2,5 тысячы злотых. Калі не дасі зямлі, дык сам не будзеш мець. Гэтую праўду павінен ведаць кожны гектар. Я яе навучыўся ад інструктараў інстытута апрацоўкі, угнойвання і глебазнаўства, з якім утрымоўваю сувязь ужо чатыры гады. Пад наглядам гэтых інструктараў праводжу я розныя сельскагаспадарчыя доследы.

— І чаго вы навучыліся?

— Дык гавару, што нельга шкадаваць грошай на штучныя ўгнаенні. На доследных дзялянках прымяняў я дозы ў 200 і больш кілаграмаў NPK на гектар. Стараюся і пад нармальныя, нядоследныя пасевы прымяняць такія самыя дозы.

— А чаго яшчэ вы навучыліся? — дапытваўся я.

— Яшчэ... навучыўся, для прыкладу, як запэўніць жывёле дасканалы зялёны корм ранняй вясною.

— Дык як?

— Там, дзе вясною маю бульбу, восенню сею жыта. Пад жыта даю калійную (патасовую) соль, суперфасфат і крыху гною. На так падрыхтаванай зямлі жыта расце дасканала. Вясной падсяваю яшчэ пагалоўна азатных угнаенняў і недзе каля 10—15 мая кашу гэтае зялёнае жыта, якое тады з'яўляецца дасканалым кормам. Пускаю затым культыватар і саджу бульбу. Бульба расце таксама вельмі добра. Гэты метад ужо перанялі ад мяне гаспадары з Гуран і наваколля.

— Якую вы маеце школу?

— Якая там у мяне школа! Я ж даваенны! Хай ужо нашы дзеці вучацца.

— Многа іх у вас?

— Адзін сын, Жэнік, закончыў сельскагаспадарчы тэхнікум у Ружаным Стоку і працуе зараз аграномам у вёсцы Гурка, другі сын, Федзя, вучыцца на інжынера ў Беластоку, за год ужо кончыць навуку, трэці, Віктар, ён наймалодшы, — здабывае прафесію ў тэхнікуме сельскагаспадарчага рахункаводства, урэшце дачка Вера вучыцца ў Беластоцкім гастранамічным тэхнікуме. Бачыце, усе раз'ехаліся. Толькі ім грошы давай. Кожны месяц мушу пасылаць па нейкіх паўтары тысячы злотых.

— А вы хацелі б, каб не вучыліся?

— Што вы! Не такі ж я ўжо дурны!

Вось такім гаспадаром з'яўляецца Рыгор Турыч. Пра яго аднак гаварылі мне таксама як пра грамадскага дзеяча. Дзе ж тады праяўляецца яго грамадская актыўнасць.

Тут перш за ўсё трэба расказаць пра справы гуранскага сельскагаспадарчага гуртка. Існуе ён у Гуранах ад 1960 года, а яго старшынёю безупынна з'яўляецца... Рыгор Турыч. Не толькі старшынёю, дыспетчарам сельгасгурткоўскіх машын таксама. Гурток гэты праводзіць калектыўную апрацоўку дзяржаўнай зямлі. У гэтым годзе засеялі яны супольна 15 гектараў грэчкі і 5 га аўса. На 1970 год плануюць супольнымі сіламі апрацаваць аж 100 гектараў дзяржаўнага фонду зямлі.

Гэта яшчэ не ўсё. Рыгор Турыч з'яўляецца старшынёю бацькоўскага школьнага камітэта, членам грамадскага камітэта Фронту адзінства народа і членам сельскагаспадарчай камісіі грамадскай рады. Ён член ПАРП ад 1951 г.

Думаю, што таварышы з Гуран падказалі мне ўласцівага чалавека. Гаспадарлівасць і грамадская дзейнасць Рыгора Турыча сапраўды можа быць прыкладам, як трэба ажыццяўляць указанні партыі ў сельскай гаспадарцы.

**В. Рудчык**

---

Пачатак на стар. 1

## ДАЖЫНКАВЫ ВЯНОК

факт, што паказчык свінагадоўлі на сто га ўгоддзяў павялічыўся ў 9 разоў у параўнанні да 1945 года і ў два разы ў параўнанні з 1938 годам. Ва ўзросце плёнаў і жывёлагадоўлі вялікую ролю адыгрывае меліярацыя зялёных угоддзяў і ворнай зямлі. За перыяд 25-ці год дзяржава прызначыла на меліярацыю больш 5 мільярдаў злотых. Спецыяльнай крыніцай фінансавання сельскай гаспадаркі з'яўляецца створаны ў 1959 годзе фонд развіцця сельскай гаспадаркі (ФРР), на які ўплочана ў 1959/1968 гадах больш 900 мільёнаў злотых. За сродкі гэтага фонду сельгасгурткі між іншым закупілі 3400 трактараў.

Не малую ролю ў павышэнні сельскагаспадарчай культуры і развіцці сацыялістычных форм гаспадаравання на беластоцкай вёсцы адыгрываюць ПГР-ы. З'яўляюцца яны базай прадукцыі кваліфікаванага насення і гадаўлянага матэрыялу для жывёлагадоўлі індывідуальным і спулдзельчым гаспадаркам.

Мы ўказалі на вымерныя прыклады дасягненняў сельскай гаспадаркі. Але нашай вёсцы характэрны перамены грамадскага характару, якія часта неневымерныя, але не менш важныя.

Сёлеташняе свята плёнаў — гэта аказія не толькі да падсумавання дасягненняў, але і дэманстрацыя салідарнасці сялян з партыяй і з яе палітыкай у галіне сельскай гаспадаркі.

**А. Карпюк**

---

Пачатак на стар. 1

## Беластоцкае школьніцтва

Што датычыць сярэдніх школ, дык тут найважнейшай справай будзе ўвядзенне новых праграм і падручнікаў у трэціх класах. Як вядома, у наступным годзе ў агульнаадукацыйных ліцэях не будзе матур, але прадбачваючы пэўную колькасць паўтараючых, куратарыя арганізуе ім класы ў I і II агульнаадукацыйных ліцэях у Беластоку, Моньках, Замброве і Дуброве і тут будуць здаваць матуру.

**— Якія інвестыцыйныя «падарункі» атрымае беластоцкае школьніцтва ў новым навучальным годзе?**

— Згодна з умовамі, будаўнічыя павінны перадаць нам 17 школ са 146 школьнымі памяшканнямі. Між іншым, комплекс прафесіянальных школ з інтэрнатам у Сейнах, тэхнікум драўніннай прамысловасці ў Гайнаўцы, эканамічны тэхнікум у Ломжы і інш. Аднак каля 19% школьных памяшканняў будзе нанятых, хоць лік іх у параўнанні з мінулым годам паменшыцца на 5%.

— Дзякуем за размову.

**Інтэрв'ю ўзяў А. Лабановіч**

---



## КРЫНКІ

Назву гэтага мястэчка памятаю з туманнага дзяцінства. Слова Крынкі вымаўлялася ў нашым родзе амаль любоўна. Справа ў тым, што з Крынак паходзіў наш род, і засталіся яны для нас вечным і дарагім гняздом нашых мінулых выраяў. Казаў мой дзед Павел, што некалі прышлі туды ў пушчу два браты Мікалай і Міхал, якія і залажылі Крынкі. Ад Мікалая пайшлі Міклашэвічы, ад Міхала — Міхалоўскія — два старыя, адвечныя роды. Прадзед мой Франц быў у свой час царкоўным старастам у Крынках. Пасля скасавання паншчыны меў ён участак зямлі, двух сыноў і многа дочак. Колькі — нават не ведаю, бо аб дочках у той час гаварылася мала. Памятаю я іх толькі адну, якая таксама жыла ў Крынках. Муж яе меў звычай казаць «маўляў», што перайшло пасля ў іх мянушку. Быў тады загад аддаваць сыноў на 6 гадоў у салдаты.. Давялося аддаць аднаго і майму прадзеду. Выпадала пасланы туды старэйшага Паўла, тым болей, што Сцяпан меў адмарожаны палец на назе і лічыўся бракоўным. Бацька кахаў Паўла, маці болей Сцяпана, але «царкоўны стараста», настаяў на сваім і аддаў малодшага сына. Увесь час сваёй вайсковай службы Сцяпан праслужыў пісарам, бо хлопцы крыху вучыліся грамаце ў мясцовага дзяка, а Сцяпан вучыўся даўжэй і лепей.

Неўзабаве ажанілі майго дзеда, было яму 18 гадоў, а бабулі Марфе — 16! Бабуля паходзіла з сям'і Чамяроў. Былі гэта лясуны, некалі дзяржаўныя прыгонныя, якія пасля ліквідацыі паншчыны, дасталі даволі вялікія надзелы зямлі, болей чымсьці па 40 дзесяцін і жылі досыць заможна. Падаравала яна майму дзеду 16 дзяцей, з якіх гадавалася 8. Была прыгожай і працавітай, памятала паўстанне, хоць была ў тую пару яшчэ невялічкай. Асабліва часта ўспаміналі раніцу, калі прыйшлі да іх акрываўленыя і змучаныя паўстанцы і спяшаючыся палілі ў іх печы дакументы. Відаць, адступалі. Прадзед мой, лясун, спрыяў і памагаў паўстанцам, але ці сам быў у іх ліку — не ведаю. Яшчэ часта ўспаміналі бабуліну сястру Паўлінку. Была яна маладзенькая, надзвычай прыгожая. Спадабаў яе нейкі няўдалы, ці не рыжы толькі, шляхцюк. Аднойчы прыехаў ён у сваты. Мілая Паўлінка не насыпала яму ў пляшкі жыта, не перавязала іх стужкай, — значыць адмовіла. Не сцярпеў шляхецкі гонар гэткай абразы, недацэненае каханне рыхтавала помсту. Са здзіўленнем глядзелі аднойчы Чамяры, як на іх двор заехаў неспадзяваны воз, з якога выскачыў шляхцюк і скаціў з воза на дзядзінец бочку піва. Ай ліха, ці не здурэў ён? А ён тым часам пачаў паволі збіваць абручы з тае бочкі, аж піва цёмнай лужынай пацякло па надворку. Тады шляхцюк завярнуў каня, агляснуўся і болей яго не ўбачылі. Страх агарнуў забабонных жанчын з гэтай дзіўнай варажбы. Яшчэ большы быў жах, калі яшчэ год з годам не сышоўся, а прыгожая Паўлінка абяцала стаць мамаю... Выдалі яе замуж за нейкага ўдаўца ў Крынкі. Кажуць, была нешчаслівай. Доля Паўлінкі глыбока запала ў маю дзіцячую памяць.

Дзед мой, аднак, на родным участку доўга не спыніўся, яго дзейная натура і сялянская любоў да зямлі падганялі да набыцця новых дзесяцін, ураджайных, хлебных і ніколі ўжо не прыгонных, сваіх. Прыгону майму дзеду выпала адрабляць усяго 6 дзён, але зненавідзеў ён яго ўсёй беззямельнай, горкай пакутаю сваіх дзядоў. Так затаргаваў Астапкаўшчыну, харошы нечы фальварак ля Крынак. Скуль магчымасці? Да сённяя ходзіць легенда, што, пасвячы авечак, ён знайшоў закапаны скарб. Я гэтаму не веру. Ён прадаў свайго паўучастка зямлі, чэсна пакідаючы другую палавіну брату, пазычыў грошай у Віленска-Тульскім банку, можа бацька крыху даў, ды Чамяры сёе-тое падкінулі, так і стаў мой дзед панам.

Род наш быў вялікі, часта збіраліся сваякі за шчодрым сталом у дзеда ўжо ў Гудзевічах. Гутарка цякла. «Загінуў бы тата, каб не пасты і малітвы нашай маці», — пачыналі цёткі. А справа была паважная. Пасля 6 гадоў вернай службы «отечеству», вярнуўся дамоў дзедаў брат Сцяпан. Прывёз, як казалі, вялікую кудлатую шапку і пачачку пёраў, як доказ свае нештадзённай асветы. Ад свайго паўучастка не адмовіўся, але вельмі настойліва захацеў палову набытай ужо выключна самым дзедам Астапкаўшчыны. Пачаліся ўпартыя, доўтатрывалыя суды. Справа дзедава была ясная, людзі кругом сумленныя, сведкаў супраць-ніякіх. Тады наняў той, ужо крыху кручаны па свеце, брат яўрэяў. Ахвотна крывапрысягалі крынкаўскія яўрэі на хрысціянскае евангеліе. Для іх гэта не было грэхам. Якія былі канкрэтныя абвінавачванні на тым судзе, не ведаю, толькі справа рабілася трагічна, пагражала Сібірам і катаргай. Аднак у самы рашучы момант падышоў да дзеда бедны і чэсны яўрэй. Ён параіў зажадаць прысягі сведкаў на адпаведную кнігу з яўрэйскай бажніцы. Кнігу прынеслі. Яўрэі-сведкі, прысягнуўшы на тую кнігу, зусім адракліся ад сваіх папярэдніх паказанняў. Дзед мой справу выйграў. Усё жыццё быў удзячны бабулі за яе шчырыя пасты і малітвы. А пасцілася тады многа, усе пасты! Асабліва запамяталіся мне гутаркі пра святкаванне «дзядоў». Увесь род





## ДЗЕЦІ З ПЛЁСАК

ФОТАРЭПАРТАЖ ЦАФ — СЯНЬКО









# ЛЕТА ВЯСКОВЫХ ДЗЯЦЕЙ

Лета ў вёсцы — самы працавіты перыяд. Тады, як вядома, накапляецца шмат неадкладных, знясільваючых работ.

У маёй памяці, у памяці вясковага хлапчука, лета спалучаецца з раннім, яшчэ на досвітку, уставаннем, каб выгнаць кароў на пашу, змаганнем са зморанасцю і санлівасцю, з холадам расы, з болем касцей, калі вяртаўся я вечарам з сенакоса або з поля, дзе цэлы дзень давялося вязаць снапы жыта і аўса і ставіць іх у дзесяткі.

Памятаю, як я зайздросціў сваім гарадскім школьным сябрам, якія планавалі, як бы прыемна і весела правесці летнія канікулы. Я, вясковы хлапчук, не патрабаваў планаваць. Мяне чакала бацькоўская гаспадарка, і таму хіба не раз я паціху і голасна праклінаў яе. Я ведаў, што змагу зазірнуць у кніжку, каб пачытаць сабе, напрыклад, пра індзейцаў, толькі ў час кароткага перапынку, калі неабходна даць каню аброку, што бацькі дазволяць мне пачытаць толькі вечарам і то не доўга, бо на досвітку трэба ўставаць. Пра вучнёўскія калёніі, пра гарцэрскія лагеры і пра паездку на «вчасы» толькі прыходзілася слухаць.

Гэтыя ўспаміны нахлынулі на мяне, калі я нядаўна ў Бельскай камэндзе Саюза польскіх гарцэраў слухаў расказ пра тое, як зараз праводзіць лета вясковая моладзь. Расказвала маладая прыгожая русая дзяўчына, прозвішча якой я, на жаль, не запісаў.

— Наша пастаянная база для адпачынку школьнай моладзі са старэйшых класаў пачатковай школы, — гаварыла яна, — знаходзіцца ля ракі Нарвы, каля Страблі. Гэта прыгожае, добра загаспадараванае месца ў лесе. Сёлета адпачывала там 400 гарцэрак і гарцэраў. Былі там дзеці з вёсак: Хаева, Тапчэва, Дубяжына, Кашэва, Кальніцы, Галадоў, Плюціч, Галёнак, з Лубіна Касцельнага, Боцек, Орлі, Руткі, Вышкаў, Браньска, Алендаў, з абодвух бельскіх агульнаадукацыйных ліцэяў, з эканамічнага тэхнікума; былі дзеці і з іншых яшчэ мясцовасцей Бельскага павета і госці з другіх раёнаў Беласточчыны. Знайшліся яны там за выдатныя вынікі ў навуцы і грамадскай дзейнасці. Іх кіравалі настаўнікі паасобных школ, якія апякуюцца гарцэрскімі дружынамі. Пабыўка ў лагеры была бясплатная. 25 дзён ліпеня правялі яны весела і бестурботна. База наша багата абясвечана рознымі прыладамі да гульняў. Дзеці мелі там уласны аркестр.

Малодшыя дзеці, з класаў 1—4, — прадаўжала свой расказ сімпатычная мая субяседніца, — адпачывалі ў вёсцы Нурэц за Боцькамі. Там было звыш 70 зухаў з Боцек, Тапчэва, Вышкаў, Браньска, Орлі і многіх іншых мясцовасцей і паветаў.

Я заслухаўся. Перастаў нават запісваць. А яна прадаўжала свой расказ без ценю хвалявання, як справаздачу пра зусім нармальную штодзённую з'яву.

І тады нахлынулі на мяне гэтыя ўспаміны з вясковага жыцця дзяцей год 15—20 таму назад. Я зразумеў, што мая малодзенькая субяседніца не заўважае проста гэтых вялікіх перамен, якія здзейсніліся за мінулы перыяд. Што адкрыліся для вясковых вучняў вароты летніх лагераў, што яны могуць там праводзіць бестурботна хаця частку канікулаў — для яе зусім нармальная справа. І гэта зразумела. Яна ж сама — маленькі парастак народнай улады.

— А як праводзяць лета тыя дзеці, якія не мелі шчасця дастацца ў лагер? — запытаў я.

— Прымаюць яны ўдзел, — адказала яна, — у акцыі нялагернага лета.

Гэтая афіцыйная фармуліроўка не зусім зразумелая, пахне яна канцыляршчынай, але мае вялікі выхаваўчы і грамадскі сэнс. Абазначае яна, што толькі на Бельшчыне было наладжана амаль 200 дзіцячых калектываў саргаінізаванага правядзення летняга часу, што звыш 4,5 тысячы дзяцей школьнага ўзросту мела забяспечаную апеку. Пад кіраўніцтвам спецыяльных інструктараў наладжвалі яны супольныя гульні, конкурсы і іншыя культурнага характару мерапрыемствы.

Гульні свае спалучалі з карыснымі ўчынкамі для людзей, якія патрабуюць дапамогі. Здзіслаў Здраеўскі паведамляў Камендатуру гуфца ЗГП, што гарцэры з яго вёскі ў рамках акцыі «нябачная рука» дастаўлялі гаспадарам у поле халодныя напіткі. Валя Грыгарук з вёскі Алекшы пісала, што іх група дапамагла пры праполцы буракоў. Галінка Грыгарук з вёскі Плёскі інфармавала, што гарцэры з іх дружыны дапамаглі адзінокай бабулі Тэклі Максымюк звезці жыта.

Школьная вясковая моладзь, якая ўдзельнічала ў акцыі нялагернага лета, арганізаваным парадкам збірала ягады і грыбы. Пасля дастаўлялі гэтае лясное багацце на скупачныя пункты, а грошы, як правіла, адводзілі на фонд дапамогі в'етнамскім сябрам.

У многіх мясцовасцях старэйшыя дзеці, члены Саюза польскіх гарцэраў, наладзілі т.зв. зялёныя дзяцінцы. Апекаваліся малодшымі сябрамі.

У суботу і нядзелю, а часта і ў буднія дні запаўняліся такія станіцы дзіцячага адпачынку, як у Войшках, у Бельску і ў іншых мясцовасцях. Плылі звонкія песні, наладжваліся спартыўныя спаборніцтвы, дзеці купаліся і загаралі — словам бестурботна адпачывалі.

Магчыма, яшчэ не ўсе. Ёсць, напэўна, шмат такіх вясковых дзяцей, якія правялі свае канікулы, як некалі я іх праводзіў. Але гэта не мяняе таго факту, што вясковыя дзеці дачакаліся ўжо летняга «гарадскога» шчасця, якога я даўней зайздросціў сваім школьным сябрам.

**М. Нурэцкі**

---

з'язджаўся ў Крынкі, насольвалі кадушкі бараніны, загатаўлялі піва. Па два тыдні маліліся, спявалі, гутарылі і частаваліся, успамінаючы сваіх памершых. Як жа шляхэтны на маю думку, быў гэты звычай памяці сваіх продкаў. Шкада, не захаваліся тыя песні, забыліся прымаўкі пры выстаўлянні душам ежы за вокны. Чамусьці мне думаецца, што побач з Хрыстом паміналі там і на стары Ярылаў лад усіх сваіх родных у зямлю і небыццё адышоўшых. Ярыла. Ад нейкага пана купіў пасля дзед сваёй дачцы (зноў на пазыку і крыху ў доўг) фальварак Ярылаўку. Старая і яшчэ паганская, мабыць, была тая сядзіба, ад самой назвы якой заўсёды ўздрыгвала маё крыху беларуска-паганскае сэрца. Казалі, што той пан вывозіў з Ярылаўкі многа кніг, пераплеценых скурай, толькі дзеда не цікавілі на жаль, тыя кнігі. Ён ведаў, кахаў і чытаў толькі адну: кніжку жывой зямлі, вечна цікавую, змястоўную, мудрую... Што ж, я разумею майго дзеда яшчэ з прыгоннай сквапнасцю да зямлі і волі ў раскаваным сэрцы. Нам бы сёння да тых тамоў дакрануцца... Памятаю першую сусветную вайну, на якую аддаў дзед чатырох сыноў, як дубы прыгожых і рослых. Аплакваў іх, а яны вярнуліся. Усіх папрывозіў зноў на Гродзеншчыну, пажаніў, падзяліў. Згінула ўся яго маёмасць, акрамя зямлі і 200 рублёў золатам, якія асабліва перахоўваў. Даў яму гэтыя грошы паміраючы добры чалавек з тым, што калі вырасце яго маленькая дачка, каб дзед аддаў ёй тыя грошы ў дзень вяселля. Выканаў дзед Павел чэсна тую просьбу. Я ад яго вучылася жыць. Быў плячысты, не высокі, з барадою. Заўсёды хораша і чыста апрануты, але па-мужыцку. Ведаў толькі адзіную мову сваіх дзядоў, і калі гутарыў, было што паслухаць. Грошы пазычаў у яўрэяў, толькі на слова. Іншай зарукі ад яго не вымагалася.

Вясною 1967 г. давялося мне наведаць Крынкі. Надвячорак быў непагодны, дажджлівы, дарога аўтобусам непрыемнай. Недзе быў той дзедаў панадворак, палоска яго зямлі, рад магілаў на цвінтары і ўспаміны, успаміны... Да слёз хацелася аднайсці мне хоць маленькі след таго старога быцця маіх продкаў. Я праехала па дарогах іхняй маладосці, услухалася ў мяккую родную мову, у сэрцы ажывала некалі пачутае, прыгадвалася забытае. Здавалася, выйдзе вось з вулачкі дзед, ці выбяжыць прыгожая Паўлінка, каб запрасіць мяне ў сваю гасцінную хату.

Знайшлася хата, была і гасціна. Была гэта не мая бабка Паўлінка, а сястронка Тамара. Сустрэлася я там са старэнькім Шкроўбам. «Ці памятаеце майго дзеда?» — «А як жа!» Якое шчасце! Значыць, хадзіў старэнькі Шкроўба ў школу некалі яшчэ з маім татам і яго братамі. «Асабліва адзін быў урвіс», — прыгадвае дзед Шкроўба. Аднойчы за непаслушэнства і непрызваітыя нейкія ўчынкі пакінуў настаўнік майго дзядзьку пасля ўрокаў і загадаў старэйшым вучням добра яму ўсыпаць. Тыя не ленаваліся. Хлапец раззлаваўся не на жарты: «Пакажа вам мой папа!» — пагразіў ён настаўніку. Але якое было здзіўленне яго і рэшты вучняў, калі назаўтра весела патрос той настаўнік новай трохрублёўкай — матэрыяльнай удзячнасцю і прызнаннем дзеда за добрае выхаванне малога буяна. Жэст, на сённяшні час, не зусім педагагічна даскональны, але ў тую далёкую пару вельмі карысны для новаспечанага «паніча». Пагутарылі мы і аб маёй бабулі, і аб дзеду, і аб 1905 г. у Крынках, і аб багатым і светлым сённяшнім дні. Калі я ад'язджала, дык выглянула сонца і я з любасцю аглянулася на малы гарадок — дарагую калыску майго роду. Пакаціліся гарачыя слёзы, мо таму, што і мой бацька аддаў трох прыгожых і рослых сыноў апошняй вайне, але яны дамоў не вярнуліся... О Крынкі, яны напэўна прышлі б пакланіцца сюды, каб жылі...

Шчасця табе і дабрабыту, гарадок наш стары, дзе даўно-даўно жылі непісьменныя, але як жа харошыя людзі, у сваёй старой, яшчэ недзе ад бога Ярылы паганскай культуры...

**Ларыса Геніюш**

## СУСТРЭЧА НАД БЕЗДАННЮ

...Дзе яна? Куды іх прывезлі? Расчыніліся дзверцы машыны, паліцаі нешта крычаць, загадваюць, а людзі не могуць крануцца з месца: яны ж нібыта пабывалі ўжо на тым свеце... Ля машыны апынуўся высокі, доўгі, як жэрдка, афіцэр і плёткай пачаў выганяць іх з душагубкі.

Яны папаўзлі ад машыны да баракаў, а па снезе цягнуўся доўгі, крывавы след. «Заплюшчу вочы — і цяпер бачу гэты след...»

Канцлагер на Шырокай, той самы лагер, што потым увойдзе ў гісторыю злачынстваў нямецка-фашысцкіх акупантаў на нашай зямлі. Той самы лагер, адкуль кожны дзень адпраўляліся ў Трасцянец душагубкі... Той самы лагер, дзе вось гэты высокі, даўганогі афіцэр — камендант, як даведалася яна потым, — на вачах у многіх людзей адарваў ад матчыных грудзей дзіця і бразнуў галавой аб сцяну. Кінуў у жолаб, дзе раней паілі коней (на месцы лагера некалі была стайня), — і мазгі і кроў дзіцяці змяшаліся... Той самы камендант, што заўсёды, як толькі ўваходзіў у барак, перапоўнены людзьмі, страляў проста перад сабою. Так ён пачынаў размову...

...І зноў яе прынялі чыесьці добрыя рукі. Падкінулі пад галаву нешта мяккае, зноў, як і ў першай камеры, у турме, ціхія жаночыя галасы пыталіся:

— За што яны цябе?

Дзве сястры, смаленскія партызанкі Вера і Ксеня Сакаловы, ратавалі, як маглі, незнаёмую Люсю з Мінска. А Люся ўжо не адчувала болю... Яна ляжала на нарах у самым кутку велізарнага барака, падзеленага на дзве палавіны; у адной былі яўрэі-спецыялісты, у другой — партызаны і падпольшчыкі. У яе было цяжкае крупознае запаленне лёгкіх: пэўна, ледзяны карцар і дарога паўзком па снезе таксама сваю справу зрабілі. Аднойчы над ёю схіліўся знаёмы твар.

— Людміла Міхайлаўна, гэта вы?!

Калега. Урач-педыятр Гурэвіч. Фашысты яго прымусілі служыць тут, у лагеры, пакуль... пакуль дазволена жыць наогул.

Чалавечая дабрата і салідарнасць. Колькі пра гэта сказана слоў, і ўсё мала, мала... Чалавек, які прайшоў фашысцкі засценак, канцэнтрацыйны лагер, зведае яшчэ і палон на чужой зямлі, можа расказаць пра дабрату і салідарнасць розных людзей у няшчасці столькі, што можна напісаць цэлыя тамы. Нават фашысцкае пекла не вытравіла гэтых пачуццяў. Нават пастаянная прысутнасць смерці не пазбавіла людзей гэтага багацця.

Спачатку жанчыны ў камеры — яна не памятае іх імёнаў, потым сёстры Сакаловы, пазней яшчэ будуць французы і палякі, якія памагалі вырвацца з палону, засланілі ад нямецкіх аўчарак і калючага дроту... А цяпер доктар Гурэвіч, чалавек, які не ведае, што дні яго злічаны, схіліўся над хворай Людмілай.

— Зараз, зараз, мы перанясем вас у лазарэт. Зробім усё, выратуем вас, Людміла Міхайлаўна.

Лазарэт у канцлагеры... Можна сабе ўявіць, што гэта такое. Але тут быў рай у параўнанні з цесным баракам, куды кожны дзень прыходзіў «на размову» камендант, адкуль кожны дзень адпраўлялі слабых і хворых, тых, хто не мог выходзіць на работу, такіх вось як яна, — у Трасцянец. Адзінае «спальнае» месца — свой тапчан — доктар Гурэвіч аддаў Кашычкінай. Сам прымасціўся побач, на падлозе. Малады, здаровы яе арганізм змагаўся з хваробай, толькі прасвету пакуль што не было. І тады доктар Гурэвіч рашыўся на самы рызыкоўны крок: нейкім чынам арганізаваў «выхад» сваёй памочніцы, таксама ўрача, Ганны Малышавай у горад. Гэты «выхад» мог каштаваць ім абаім жыцця, асабліва Малышавай. Але яна пайшла і вярнулася, хаця магла б, пэўна, вырвацца на волю. Вярнулася і прынесла сульфадымезін, дарагое і рэдкае на той час лякарства. Для Людмілы!

Потым зноў барак, зноў прытулілася да сясцёр Сакаловых, старажылаў лагера. Усе законы гэтага страшнага мес-




ца, гэтага пекла, ведалі сёстры, і іх дружба, іх парады на пачатку таксама ратавалі ёй жыццё.

— Толькі не паказвай, што слабая, збяры ўсе сілы, але выходзь на працу.

І яна яшчэ не вельмі ачуняла, але ўжо выходзіла разам з сёстрамі на работу. Ксеня і Вера падтрымлівалі яе пад рукі, захіналі сабою, калі яна валілася з ног.

А аднойчы... аднойчы іх калона ішла па вуліцы Інтэрнацыянальнай, спускалася з гары, з плошчы Свабоды. На тратуарах тоўпіліся людзі — выглядалі сваіх. І раптам: «Мама, мама!»

Не, няхай пра гэта лепш раскажа той, хто бачыў гэта на свае вочы, — Ксеня Сакалова:

«Мама, мама!» — пачуўся дзіцячы крык. Ён разарваў душы нам усім, усім, хто быў у калоне і хто стаяў на тратуарах. Гэта пяцігадовая Наташка ўбачыла ў калоне сваю маці. Яна пабегла на аскаленыя пашчы аўчарак, праз завалы каменнага друзу, праз ланцуг аўтаматчыкаў.

«Мама! Мама!» — рваліся сэрцы ў людзей. Спынілася калона. Нават канваіры на некалькі хвілін разгубіліся... А ў яе, у маці, хапіла мужнасці не закрычаць, не заплакаць... Яна абняла дачку і знешне спакойна сказала: «Ідзі дачушка, ідзі. Я вярнуся. Ідзі, родная».

Людзі засланілі сабою маці, вынеслі і зберaглі Наташку. Калона рушыла далей, а ў маіх вушах, ды і ва ўсіх астатніх людзей, пэўна, таксама доўга яшчэ гучаў дзіцячы крык».

Хапіла сіл. Пэўна, толькі на адно імгненне... У той жа дзень Людміла зноў звалілася з высокай тэмпературай. І зноў яе забраў у лазарэт доктар Гурэвіч.

...У людзей, якія ідуць на смяротэльную барацьбу з ворагам, могуць быць бацькі, браты, сёстры, мужы і жонкі. Але калі лёс пасылае ім дзяцей, то няхай лепш пазбавіць іх вось ад гэтых сустрэч. Усё магла вытрымаць, усё, а Наташчын крык, яе твар, яе вочы — спалоханыя такія, любыя, родныя вачаняты — пакінулі балючы след глыбока ў сэрцы. І баліць яно з той хвіліны, сэрца, баліць пякуча і востра.

Героі — звычайныя людзі...

А хутка адбылася яшчэ адна сустрэча. Сустрэча над безданню.

«Прафесара прывезлі, Клумава!»

Па бараках, дзе амаль палавіна мінчан ведала Клумава, гэтую навіну перадавалі трывожным шэптам:

«З жонкай прывезлі, з Галінай Мікалаеўнай!...»

І яны сустрэліся зноў. Белка-Кашычкіна і Самарын-Клумаў.

Толькі што вызвалілі яўрэйскую палавіну барака: павезлі ўсіх у крэматорый. У той жа дзень і ўбачыла Людміла, як зяруга камендант выхапіў у жанчыны дзіця і бразнуў галавою аб сценку... Зняволеныя памылі барак і той самы жолаб... І вось ужо тут размясцілі Клумава з жонкай, Анісімава, Веру Міхайлаўну Гурыновіч...

— Як вы тут, Людміла Міхайлаўна, галубачка?

— Вось... І яна не вытрымала, расказала прафесару пра сваё дзіця, пра Наташку, і ўпершыню за сваё лагернае жыццё заплакала, як школьніца на плячы свайго добрага старога настаўніка — на плячы прафесара Клумава.

— Нічога, галубка, нічога. Гэта ж вораг?! Разумееце — вораг!

...І зноў доктар Гурэвіч аддаў свой тапчан — прафесару і яго жонцы. І зноў прымасціўся на падлозе. Ён прыбег адразу ж, як толькі пачуў: «Клумава прывезлі», — забраў іх у лазарэт і як мог клапаціўся аб прафесары і яго сям'і. Здабываў недзе сахарын для прафесара, рабіў яму ўколы інсуліну, падтрымліваў зусім ужо аслабелую Галіну Мікалаеўну. Яны былі вельмі слабыя, вельмі хворыя. Яўген Уладзіміравіч і яго жонка. Але па-ранейшаму прафесар трымаўся горда і незалежна. Такая моцная сіла ішла ад гэтага чалавека, такая была дадзена яму духоўная ўлада над людзьмі, што нават зяруга-камендант і яго прыспешнікі размаўлялі з ім калі не пачціва, то ўсё ж стрымана.

Многія хацелі і прабрацца да Клумава, пабачыць яго, перадаць што-небудзь з прадуктаў і асабліва сахарын, без якога прафесар, хворы на дыябет, ніяк не мог абысціся. Стараліся і Ганна Навіцкая, і Вера Кароль, і Марыя Ермачонак, і многія іншыя работнікі бальніцы, але зрабіць гэта нікому не ўдалося.

« —Аднойчы мы падышлі да варот, пралезлі амаль што ў самы лагер і ўбачылі на двары Яўгена Уладзіміравіча. Побач была Вера Гурыновіч. Мы замахалі ім рукамі, пачалі клікаць. Варта кінулася да нас, збіла з ног, мы ледзь падняліся з зямлі, а прафесар і Вера Міхайлаўна сталі на каменне і крычаць нам: «Просім вас, молім, не хадзіце сюды больш. Не хадзіце! І перадайце ўсім, каб ніхто не прыходзіў...»

Ён і тут непакоіўся пра іншых больш, чым сам пра сябе.

— А ведаеце, галубачка, вас павінны былі павесіць, ведаеце? На шчасце немцы любяць «жоўценькае», асабліва ў царскіх манетах. Вашы таварышы хадзілі, збіралі, дзе толькі маглі, грошы, асабліва Марыя Піліпушка. І выкупілі вас, выкупілі! — гаварыў ён Кашычкінай. І ні слова пра тое, што «выкупіў» галоўным чынам ён сам. І ні слова пра тое, што яна, «Белка», упершыню звязала яго жыццё з падполлем і што цяпер яму, старому і слабому целам чалавеку, даводзіцца так пакутаваць тут, у гэтым лагеры, і, магчыма, загінуць...

Людмілу Кашычкіну чакалі новыя цяжкія і небяспечныя шляхі-дарогі. І тут, у лагеры, кожную хвіліну жыццё вісіць на валаску. Але гэты валасок не абарвецца. Яна трапіць у Францыю, і ў дзень Парыжскай камуны французскія камуністы перададуць рускім нявольніцам інструмент, якім можна рэзаць дрот; яна і сёстры Сакаловы стануць удзельніцамі французскага Супраціўлення, апрануць форму «макі».

А прафесар Клумаў? Яго шлях закончыцца тут, на вуліцы Шырокай... І здарыцца гэта вось так...

У тую раніцу, 13 лютага 1944 года, доктар Гурэвіч папярэдзіў Кашычкіну: немцы рыхтуюцца ліквідаваць лагер. З усходу ўсё чутней і чутней кананада.

Раніцою хворых і слабых вывезуць у Трасцянец. Астатніх — у Германію. Выходзьце з лазарэта і змяшайцеся з натоўпам, і Клумавых папярэдзьце.

Яна пабегла ў лазарэт.

— Хутчэй, Яўген Уладзіміравіч, хутчэй. Выходзьце адсюль з Галінай Мікалаеўнай!

— Добра, галубка, добра. Вы ідзіце, а мы зараз... Давайце на ўсякі выпадак развітаемся.

Ён абняў яе, пацалаваў у вочы, у галаву, узяў за плечы і амаль сілком вывеў з лазарэта. Галіна Мікалаеўна была вельмі слабая, яна амаль не ўставала ўжо з ложка і таксама развіталася з Людмілай. «На ўсякі выпадак»...

Ішоў час. У тую раніцу іх не выводзілі на работу, як звычайна. У паветры насілася нешта насцярожанае, трывожнае. Усе чакалі... У восем гадзін пачулася каманда — пастроіцца.

— Ціха, ціха! — перакладчык каменданта, такі ж даўганогі, як і ён сам, крычаў на ўвесь лагер. — Ціха! Хворыя, калекі, усе хто не можа выйсці на работу, — два крокі наперад!

Сярод тых, хто зрабіў гэтыя два крокі, хто выйшаў, былі Клумаў з жонкай, Анісімаў...

У восем гадзін сорак пяць мінут на двор лагера пачалі прыбываць машыны. На іх пагрузілі ўсіх, хто аб'явіўся хворым. І ў самую апошнюю машыну з горда ўзнятай галавой, узяўшы пад руку сваю жонку, пайшоў прафесар Клумаў. Спыніўся перад расчыненай душагубкай, павярнуўся да строю зняволеных.

— Бывайце, таварышы! Я зрабіў усё, што было ў маіх сілах, і з гонарам прымаю смерць на сваёй роднай зямлі.

На сваёй роднай зямлі...

**(Працяг будзе)**




### ГАСЦІННАЯ КРАІНА

Праязджаючы праз гарады і пасёлкі Балгарыі, адчуваецца святочны настрой. Усюды кідаецца ў вочы лік 25. Няцяжка дадумацца, што балгарскі народ рыхтуецца да святкавання свайго «сярэбранага вяселля», 25-ай гадавіны вызвалення краіны (9.IX.)

Давялося мне праехаць поездам, аўтобусам і самалётам шмат кіламетраў па балгарскай зямлі, мець шматлікія сустрэчы з людзьмі. Свае ўражанні і перадаю чытачу.

### З ГІСТОРЫІ

Сённяшнія землі Балгарыі, распалоэжаныя на берагах Чорнага мора, былі заселены ад найдаўнейшых часоў. У старажытнасці гэтыя землі былі вядомыя як Фракія. Яны мелі цесныя сувязі з Грэцыяй, Македоніяй, а потым з Рымам.

У VI і VII стагоддзі нашай эры сюды наплылі з поўначы славянскія плямёны, якія ў другой палове VII ст. заваяваў прыбыўшы з-над сярэдняй Волгі турэцка-татарскі люд балгараў. Прыбыўшых аднак было параўнальна нямнога, і таму яны хутка асіміляваліся з мясцовым славянскім насельніцтвам. Ад іх асталася толькі назва, якую атрымала ўзнікшая ў выніку аб'яднання балканскіх славян дзяржава — Першая Балгарская Імперыя.

Першая балгарская дзяржава была магутная. Сягала яна ад Чорнага мора аж да Адрыятычнага, заваявала Македонію. У 864 г. Балгарыя прымае хрысціянства, і ў гэтым жа часе распаўсюджваецца тут славянскі алфавіт. У 1018 г. Балгарыя страціла незалежнасць. Пасля двухвяковай няволі ў выніку ўзброенага паўстання адраджаецца другая балгарская дзяржава.

Калі Еўропе сталі пагражаць туркі, Балгарыя, як найбліжэйшая, вельмі рана была заваявана і ўвайшла ў склад Турцыі. Каля 500 год туркі праследвалі і асімілявалі балгараў. Прымусова быў уведзены іслам. Тысячам людзей адсякалі публічна галовы за найменшыя праявы бунту. Адзінымі пунктамі супраціўлення сталі манастыры, якія ў асноўным размяшчаліся ў гарах.

Па меры ўзмацнення праследванняў і аслаблення Турцыі нарастала партызанскае змаганне за свабоду краіны. У 1876 г. выбухае вялікае ўзброенае паўстанне, крывава падаўленае туркамі. Тады Расія, якая мела даўнейшыя справы з Турцыяй, ударыла на турэцкіх захопнікаў, нясучы свабоду балгар-



Каменная рака ў гарах Віташа.

